# наша свабода

**№29** ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

6 ЧЭРВЕНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





# Дзяржкамдрук ідзе вайной на прэсу

Рыгор БУЯН

**Перад самым адыходам на адпачынак старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны нанёс сакрушальны ўдар па двух незалежных выданнях: «Народнай волі» і «Белорусской деловой газете». 29 траўня названыя газеты атрымалі па два папярэджанні запар. Каторы раз «журналісцкае ведамства» для расправы над няўгоднымі СМІ выкарыстоўвае артыкул пяты «Закона аб друку» — «Недапушчэнне злоўжывання свабодай масавай інфармацыі».**



№ 101 (923)
Субота, 3 чэрвеня 2000 г.
Выдаецца з лістапада 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: 50 руб. (50000 руб.), па падпісцы — 37 руб. (37000 руб.)

Народная Воля

Надвор'е

Кальчэнко & К°

Узраслі тарыфы на многія віды камунальных паслуг

Открытым текстом

Анатолий ЛЕБЕДЬКО, председатель Объединенной гражданской партии, заместитель предсе

...новать

БЕЛОРУССКАЯ ДЕЛОВАЯ ГАЗЕТА

№82 3 июня 2000 года (778)

Газета основана в 1992 году

суббота

ИМЯ

ПРИРОДУ МЫ ВЗЯЛИ ВЗАЙМЫ

стр. 4

ОБРЕЧЕННЫЕ НА ГОЛОДАНИЕ

Каждый шеститысячный ребенок, рожденный в Беларуси, болен фенилкетонурией

стр. 11

Найперш Дзяржкамдрук абвінавачвае «Белорусскую деловую газету» ў «распальванні нацыянальнай нецярпімасці». «Распальванне нацыянальнай нецярпімасці» ведамства М.Падгайнага ўгледзела ў артыкуле Сямёна Букчына «Кадзіш над Біркенаў», надрукаваным 15 лютага, і ў адказе на гэтую публікацыю намесніка старшыні Саюза палякаў Тадэвуша Малевіча «Ад польскага антысемітызму да яўрэйскага антыпаланізму». Такую ж крамолу Дзяржкамдрук угледзеў і ў лісце чытача М.Урублеўскага «Мы не статак баранаў», які з'явіўся на старонках «БДГ» 7 сакавіка. «Згаданы ліст утрымлівае выказванні, якія зневажаюць гонар грамадзянаў Рэспублікі Беларусь рускай нацыянальнасці і іншых нацыянальнасцяў, якія карыстаюцца ў побыце адной з дзвюх дзяржаўных моваў Рэспублікі Беларусь — рускай мовай», — гаворыцца ў папярэджанні. «Калі мы хочам, каб нацыя захавалася, а нашыя дзеці і ўнукі жылі лепей за нас, — ніякіх саюзаў з Расійскай імперыяй. А галоўнай задачай унутры краіны павінна стаць асіміляцыя рускіх» — гэтае і падобныя выказванні Дзяржкамдрук расцэньвае — ні больш, ні менш — як стварэнне «негатыўнага вобразу часткі грамадзянаў РБ, якія адносяцца да рускай нацыянальнасці альбо гавораць на рускай мове».

Папярэджанні на адрас «Народнай волі» сфармуляваныя яшчэ абсурдней. Першае газета атрымала за невялікі матэрыял намесніка рэдактара Івана Макаловіча, дзе ў адным з абзацаў ён задаецца рытарычным пытаннем «...Можа, варта звярнуцца па дапамогу да НАТА?», што расцэнена дзяржкамдрукаўскімі чыноўнікамі як «заклікі да захопу ўлады, сілавога змянення канстытуцыйнага ладу». Другое ж увогуле не паддаецца ніякаму тлумачэнню. ►

Заканчэнне на стар.3

# Клинтон и Путин искали общий язык



**То, что Москве и Вашингтону придется строить «новые отношения», стало ясно с первой минуты, когда Клинтон шагнул навстречу своему российскому коллеге во время их встречи в субботу.**

Договор об уничтожении 68 тонн военного плутония в течение ближайших двадцати лет, подписанный вчера в Кремле, Клинтон назвал «важной вехой». Согласно договору о сокращении плутония, России и США предстоит утилизировать или приспособить для мирных целей примерно по 34 тонны обогащенного ядерного топлива, способного поднимать в воздух боеголовки. Согласно заявлению официальных представителей США, таким количеством топлива можно было бы снабдить десятки тысяч единиц ядерного оружия.

Президенты двух стран также объявили о строительстве в Москве совместного военного центра раннего предупреждения, но все же переговоры, длившиеся два дня, мало продвинули вперед процесс разоружения двух крупнейших в мире ядерных арсеналов.

Путин назвал прошедшие переговоры «очень открытыми» по характеру и «совершенно конкретными» по содержанию, отметив, однако, что стороны сохранили разногласия по чеченскому вопросу и по договору о противоракетной обороне, в который США хотели бы внести изменения.

Впрочем, взаимный холодок в отношениях между двумя президентами можно было легко предсказать еще в ту минуту, когда Борт номер один ВВС США катил по посадочной полосе московского аэродрома: Клинтон задумал устроить Путину грандиозный выговор за недавнюю кампанию против российской свободной прессы, критиковавшей своего президента.

Активисты из правозащитных организаций отметили, что позицию Клинтона относительно российских действий в Чечне никак нельзя назвать достаточно жесткой. «Неужели подобные саммиты должны преподносить нам урок, что такая сильная страна, как Россия, может безнаказанно убивать, пытать, арестовывать и насиловать своих граждан, а также бомбить, сжигать и грабить их дома?» — задал вопрос Дидерик Лохман, глава московского отделения организации *Human Rights Watch*. Между тем, сам Клинтон заявил, что настойчиво предлагал Путину провести расследования всех случаев военных преступлений. Однако этого же до него требовали многие московские визитеры и, как правило, безрезультатно.

Лидер свободного мира провел еще час в студии одной из московских радиостанций, владелец которой, холдинг «Медиа-Мост», в прошлом месяце подвергся набегу вооруженной до зубов налоговой полиции.

Пока Клинтон экспромтом отвечал на вопросы радиослушателей, телеканал НТВ показал программу «Куклы», в которой американский и российский президенты стали главными объектами сатиры (и от которой Кремль еще в прошлом месяце пытался добиться, чтобы она перестала использовать куклу, изображающую Путина, в своих сюжетах). ■

## Наша СВАБОДА – гэта Ваша СВАБОДА!

**Паважаныя чытачы!**

Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА працягвае падпіску на II паўгоддзе 2000 г.

Падрабязнасці пра ўмовы падпіскі на *стар. 6*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Пастановай міністэрства эканомікі Беларусі ўдвая павялічаныя тарыфы на электраэнергію для насельніцтва.** Насельніцтва гарадоў, якое жыве ў дамах з газавымі плітамі, будзе плаціць 7,2 рубля за кілават, насельніцтва гарадоў, якое жыве ў дамах з электраплітамі, а таксама жыхары сельскай мясцовасці — 5,2 рубля. З пачатку года тарыфы ўзраслі ў 5,1 раза, тады як спажывецкія цэны ў цэлым — у 1,5 раза.

■ **На чыгуначнай станцыі ў Баранавічах адбылася ўцечка дыпраксаміну — атрутнай і лёгкай на загаранне вадкасці — у саставе, які накіроўваўся з Брэста ў Казахстан.** Небяспеку сітуацыі ўстанавілі выкліканыя спецыялісты радыяцыйна-хімічнай разведкі. На станцыі знаходзіліся 112 столітровых бочак з дыпраксамінам і ад злучэнняў атрутнага рэчыва з паветрам у любы момант мог адбыцца выбух. Ратавальныя каманды перагналі вагон на бяспечную адлегласць. Месца ўцечкі было нейтралізаванае.

■ **Учора прэзідэнт ЗША Біл Клінтан прыбыў з рабочым візітам у Кіеў, дзе ў Марыінскім палацы сустрэўся з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам.** Гэты візіт Клінтана прэзідэнт Украіны назваў «знакавай падзеяй». Кіеў разлічвае на актыўную дапамогу ЗША ў пытанні закрыцця Чарнобыльскай АЭС і атрымання неабходных для гэтага грошай.

■ **Месяцам чыстага паветра абвясцілі ў Брэсцкай вобласці першы месяц лета чэрвень.** Экалагічная аперацыя «Чыстае паветра» праводзіцца абласным камітэтам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя сумесна з органамі Дзяржаўтаінспекцыі. Летась прадпрыемствамі вобласці ў атмасферу выкінута 364 тысячы тонаў шкодных рэчываў, што вельмі заклапочвае эколагаў. Асоба складаная сітуацыя з аховай навакольнага асяроддзя склалася на прадпрыемствах, якія зведваюць фінансавыя праблемы. Менавіта па згаданай прычыне дагэтуль не зманціраваная ўстаноўка ачысткі паветра на Бярозаўскім камбінаце будаўнічых вырабаў, на Бярозаўскай ДРЭС не ўкаранёная сістэма двухступенчатага спальвання паліва.

## НАДВОР'Е

Віцебск +20
Мінск +21
Магілёў +21
Гродна +22
Брэст +20
Гомель +22

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**975**



## Дыялектыка

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Ёсць людзі, якія заўжды дакладна ведаюць, што і як трэба рабіць у тым ці іншым выпадку. Але не кажуць, што і як. Здагадайся, маўляў, сам. «Эксперты» называюцца. Ты, напрыклад, пабудаваў двухпавярховую камяніцу і запрасіў гасцей на ўлазіны, а ён тым часам падыдзе ззаду ціхенька, пахмурна гляне на будынак, плюне і праз зубы скажа: «Хто ж ставіць сцены на такім падмурку? Такі падмурак нічога не варты! Ерундоўскі нейкі падмурак! Нашто ён патрэбен? І ты такі, як той падмурак! І сям'я твая такая ж! І гаспадарка твая абы што! І бацька твой дурань!». І пойдзе далей наўсцяж па вуліцы, задаволены сабой, сцінаючы ботамі крапіву ўздоўж плота. Туды, дзе за выганам стаіць у балоце ягоная гнілая, сляпая і крывая халупа, крытая саломай.

Многа такіх «экспертаў» сярод беларускіх журналістаў ды палітыкаў. Яшчэ ў мінулым годзе вясной на акцыі пратэсту супраць дыктатуры выходзіла не болей за дзве тысячы людзей. «Эксперты» пагардліва і з'едліва распавядалі нам: маўляў, апазіцыя ні на што не вартая! Захад яе ўсур'ёз не ўспрымае. Не можа яна людзей на вуліцы вывесці. Ні ўлётак нармалёвых, ні сумесных дзеянняў, ні транспарантаў, ні дэвізаў, ні ідэяў, ні сучасная дызайна, ні народу і г.д. Трэба ўсім здавацца, бо ўсё не так, як трэба!

Праз год аб'яднаная апазіцыя вывела на вуліцы пяцьдзесят тысяч чалавек. «Эксперты» пагардліва і з'едліва давялі нам, што апазіцыя ні на што не вартая. Не тым займаецца. Не канструктыўная. Змагаецца з неаграможнай сілай. Улёткі друкуе. Налепкі клеіць. Аб'ядноўваецца. Мітынгі ладзіць. У Амерыку ды Еўропу ездзіць. А трэба не так. Самі думайце як.

А калі падумаеш у тым напрамку, дык атрымліваецца, што трэба не на мітынгі хадзіць, а па вёсках з агітацыяй ездзіць. Не ўлёткі друкаваць, каб людзей аб'ядноўваць для супрацьву дыктатуры, а ствараць свае канторы па раёнах, ды рыхтавацца да лукашэнкаўскіх выбараў. Не ў амерыканскі Кангрэс звяртацца за падтрымкай, а ў пояс кланяцца маскоўскім дабрадзеям. Ісці на новыя кампрамісы. Ды ўвогуле трэба ўжо здавацца, бо і без выбараў вядома, хто стане наступным прэзідэнтам і хто засядзе ў лукашэнкаўскія палаты.

Карацей кажучы, трэба не новую камяніцу будаваць, а падслепаватую халупу фарбаваць, упрыгожваць кветкамі ды падпіраць каламі ад ветру. Каб можна было потым «эксперту» падыйсці да цябе ды сказаць пагрэджаным: «І каму патрэбная гэтая халабуда?».

# Статкевіч forever

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

**У суботу і нядзелю прайшоў чарговы з'езд адной з буйнейшых апазіцыйных партыяў Беларусі — Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Новым-старым старшынёй партыі на безальтэрнатыўнай аснове зноў абраны Мікола Статкевіч. За яго прагаласавала 102 чалавекі, 22 прагаласавалі «супраць».**

Уладзімір Нісцюк, Ніна Стужынская і Аляксей Кароль былі абраныя намеснікамі М.Статкевіча. Першым намеснікам стаў Алесь Арыстовіч.

Самай галоўнай праблемай пры правядзенні з'езда стала знаходжанне памяшкання для ягонага правядзення. Напярэдадні з галоўнага гаспадарчага ўпраўлення пры прэзідэнце прыйшла папера, у якой «прадаставіць у арэнду на 3 і 4 чэрвеня 2000 года залу ў любых будынках дзяржаўнай уласнасці не прадстаўлялася магчымым». Таму раней падпісаная з кіраўніцтвам гасцініцы «Белінтурыст» дамова аб арэндзе канферэнцзалы была скасаваная гэтым жа кіраўніцтвам у аднабаковым парадку.

На дапамогу прыйшоў Беларускі Народны Фронт, які дазволіў сацыял-дэмакратам на выхадныя заняць сваю сядзібу. Амаль паўтары сотні дэлегатаў туды з цяжкасцю ўлезлі, але тым не менш амаль усе здолелі вытрымаць двое сутак у духаце.

Многіх цікавіла пытанне, як БСДП (НГ) паставіцца да праблемы восеньскіх выбараў у палату. Але тут якраз ніякай інтрыгі не атрымалася. Пытанне шырока не абмяркоўвалася ў прынцыпе. Найбольш верагодны варыянт развіцця падзеяў стаў рэальнасцю — канчатковае рашэнне проста адкладзенае да восені пры ўмове, калі А.Лукашэнка пойдзе на нейкія саступкі ў прыняцці папраўкі ў Выбарчы кодэкс і выканае чатыры агульнавядомыя ўмовы АБСЕ. Адбыліся на з'ездзе выбары і ў Цэнтральны камітэт партыі. Апошні, дарэчы, іграе, бадай, ці не галоўную ролю ў прыняцці рашэння, бо складаецца з найбольш актыўных і вядомых яе сябраў.

Увайшла ў склад гэтага ЦК і цяперашняя старшыня сатэлітнай БСДП(НГ) арганізацыі «Маладая Грамада» Таццяна Алесіна. Яна больш за паўгода таму ўчыніла «міні-пераварот» у «Маладой Грамадзе», замяніўшы на галоўнай пасадзе нязменнага кіраўніка Сяргея Марцалева і зрабіўшы кіраўніцтва «МГ» амаль цалкам жаночым.

Пасля гэтага арганізацыя пачала значна мяняць свой твар, станавіцца менш апазіцыйнай і больш «ніякай». Затое яна стала ўсё больш нагадваць «турбюро». Як вядома, сацыял-дэмакратыя цяпер займае вядучыя ролі ў шмат якіх еўрапейскіх краінах. Таму ўсё больш «маладых грамадоўцаў» ездзяць за мяжу да замежных партнёраў і прымаюць гасцей у парадку абмену. ■



# Сталіца дружбы народаў

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

2–3 чэрвеня ў Гродне адбыўся Усебеларускі фестываль нацыянальных культур. Ён праводзіцца з 1996 года раз у два гады. Арганізатары падкрэслілі, што падобнага фэсту, нібыта, нідзе ў свеце больш няма.

Удзельнічалі ў мерапрыемстве 14 нацыянальных суполак разам з беларускай. Упершыню танчыла і спявала ў Гродне «Беларуская цыгарская дыяспара», якой адвялі месца на платнай аўтастаянцы. Вялікую ўвагу публікі прыцягнуў «нямецкі падворак». Яго ды іншыя падводворкі наведаў старшыня аблвыканкама А.Дубко са світай. Літоўцы з палякамі традыцыйна займалі пляцоўкі ў Старым і Новым замках.

Паўсюдна смажыліся шашлыкі, было шмат піва, гарэлкі і міліцыянтаў. У цэнтры свята на Савецкай плошчы невядомыя ўзнялі на паветраным шарыку бел-чырвона-белы сцяг, прывязаўшы яго за лёску да галінкі дрэва. Міліцыянты амаль паўгадзіны не ведалі што рабіць. Потым ім удалося абрэзаць лёску і беларускі сцяг уляцеў у неба. Мерапрыемства закончылася начным феерверкам у гонар дружбы народаў. ■

# ФПБ стукаецца ў «палату»

**Рыгор БУЯН**

**Папярэдняе рашэнне ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах, прызначаных на восень, прыняло кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай. Праўда, апошняе слова афіцыйныя прафсаюзы скажуць пасля з'яўлення ўказа А.Лукашэнкі пра выбары ды ўнясення зменаў у Выбарчы кодэкс, выпрацаваных «шырокім дыялогам». Але структурныя падраздзяленні ФПБ ужо атрымалі даручэнне пачаць падбор кандыдатураў для вылучэння ў выбарчыя камісіі і падбіраць магчымых кандыдатаў у дэпутаты.**

З годна з запіскай інфармацыйна-аналітычнага цэнтра Савета ФПБ, прафсаюзы могуць разлічваць на поспех — няглядзячы на тое, што гэта будуць «выбары з папярэдне падрыхтаваным сцэнарам і напярэдне зададзенымі вынікамі». Аналітыкі адзначаюць, што прафсаюзам самім давядзецца фарміраваць попыт на вылучаемых кандыдатаў, таму і звяртаюць асаблівую ўвагу на патэнцыйны электарат. Найперш аналітыкі раяць шукаць падтрымкі ў асяроддзі выбаршчыкаў сталага ўзросту, прычым праз тэрытарыяльныя ветэранскія арганізацыі і арганізацыі ветэранаў працы. Па звестках на студзень, колькасць непрацуючых пенсіянераў, якія стаяць на прафсаюзным уліку, дайшла да 223 тысяч чалавек, а гэта і ёсць патэнцыйны электарат прафсаюзаў.

Папярэдняя выбарчая кампанія падказала, што да агітацыі трэба прыцягваць моладзь. Напрыклад, аналітыкі раяць прыцягваць выкладчыкаў і студэнтаў Міжнароднага недзяржаўнага інстытута працоўных і сацыяльных адносінаў да выпрацоўкі перадвыбарчай стратэгіі і правядзення сацыялагічных даследаванняў.

У той жа час вядома, што прафсаюзы маюць невысокую ступень даверу ў грамадстве. Паводле апытання сацыялагічнай службы «Люстэрка» кампаніі БелаПАН, праведзенага ў красавіку, ФПБ цалкам давяраюць толькі 6% рэспандэнтаў. Частковым даверам афіцыйныя прафсаюзы карыстаюцца ў 40% рэспандэнтаў, а 31% апытаных іх поўнасцю не давяраюць. Аналітыкі робяць высноваў, што трэба рабіць усё магчымае, каб перацягнуць на свой бок тых, хто вагаецца.

Здзіўляе тая беспрынцыповасць, з якой ФПБ падыходзіць да выбараў. Папраўкі ў Выбарчы кодэкс яшчэ не прынятыя, невядомая пакуль што і дата гэтай кампаніі, а Федэрацыя ўжо рыхтуецца вылучаць сваіх кандыдатаў. Але чаму дзівіцца. Пасля «накату» на ФПБ з боку прэзідэнцкай адміністрацыі ў красавіку прэзідэнт Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык заявіў пра магчымы выхад з «шырокага дыялога». Але варта было часова спыніць гэты ціск, як Федэрацыя адразу змяніла сваё рашэнне. ■

# Гродзенскую газету робяць у Брэсце

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

З пачатку чэрвеня ў Гродне з'явілася новая газета – «Вечерний Гродно». Першы нумар быў звярстаны і надрукаваны ў Брэсце накладам у 10 тысяч асобнікаў.

Цікава, што «шэф-рэдактарам» новага выдання стаў галоўны рэдактар газеты «Вечерний Брест» У.Шпарло. Гарадскія ўлады не дазволілі брэстчаніну заснаваць газету без іхняга ўдзелу. Таму першым заснавальнікам з'яўляецца Гродзенскі гарвыканкам. Яшчэ два – гэта «РИА «Вечерний Брест» і рэдакцыя газеты «Вечерний Гомель-Экспресс». Такім чынам, гродзенцы атрымалі новую газету дзякуючы «варагам», на грошы якіх яна пачала выдавацца. У гарадскіх уладаў на падобныя справы сродкаў няма.

Як вядома, У.Шпарло застаецца жыць у Брэсце. Мясцовым – гродзенскім «адказным рэдактарам» стаў А.Кучынскі, які дагэтуль працаваў намеснікам рэдактара абласной «Гродзенскай праўды». ■

# Страйк на мяжы

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

1 чэрвеня на беларуска-польскай мяжы ў Брузгах адбыўся страйк шафёраў прыватных легкавікоў. Цэлы дзень імі быў заблакаваны праезд у Польшчу. Толькі ўвечары аднавіўся рух машынаў за мяжу.

Шафёраў абурыла раптоўнае ўвядзенне мясцовымі ўладамі грашовага збору за паркоўку на дарозе або на не ўзбочыне. Затое, што чакаеш у чарзе выезду за мяжу, трэба заплаціць 2.600 рублёў за легкавую машыну. Замежнікі мусяць плаціць 10 долараў. З іншых відаў транспарту – зборы большыя. Людзі адмовіліся плаціць. Яны разышліся толькі пасля таго, як невядомы мужчына, сеўшы за руль «буса», вырашыў разагнаць натоўп, у якім сабралася больш за паўтысячы чалавек.

Гродзенскі раённы савет дэпутатаў прыняў рашэнне аб спагнанні гэтага мясцовага збору 29 траўня. 31 яго надрукавала гродзенская раёнка «Сельская навіна», а з наступнага дня рашэнне ўступіла ў сілу. Раённы пракурор Б.Таранка, які прыязджаў да забастоўшчыкаў, на 10 дзён часова прыпыніў дзеянне гэтага рашэння райсавета. Рашэнне было запатрабаванае ў Генеральную пракуратуру.

Чарга ў Брузгах у той дзень расцягнулася на 2 кіламетры. Чакаць выезду ў Польшчу трэба было больш за суткі. З 1 жніўня пераход у Брузгах будзе цалкам зачынены на тры месяцы. ■

# Кангрэс дэмакратычных сілаў пройдзе ў пачатку ліпеня

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў прыняла рашэнне аб правядзенні 2-3 ліпеня ў Мінску трэцяга кангрэса дэмакратычных сілаў (КДС). Прызначэнне гэтай даты выяўляе незразумелы канфлікт арганізатараў КДС і Усебеларускага з'езда, які таксама павінен прайсці прыкладна ў гэтыя дні. Застаецца незразумелым, навошта перакрыжоўваць два такія буйныя і вельмі важныя мерапрыемствы і што не падзялілі іхныя арганізатары. ■

# Канец сезона вызначае лепшых

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Спартыўны сезон, як вядома, дзеліцца на дзве складаемыя – зімовы і летні. Напрыканцы траўня звычайна вызначаюць лепшых па ўсіх паказчыках у тых відах спорту, спаборніцтвы па якім праводзяцца ў перыяд з восені па вясну.

Так у гэтым годзе лепшым баскетбалістам Беларусі стаў сярэбраны прызёр чэмпіянату краіны па гэтым відзе спорту з гомельскага «Спартака-кандытара» **Аляксандр Назараў**. Лепшым хакеістам краіны прызнаны **Уладзімір Цыплакоў**, які выступае ў Нацыянальнай Хакейнай Лізе (НХЛ) за клуб «Бафала сэйбрз». Таксама метадам галасавання сярод хакейных спецыялістаў быў абраны лепшы хакеіст Беларусі дваццатага стагоддзя. Ім стаў **Аляксандр Андрыеўскі**, які гуляе ў хакей і цяпер. Зусім не на шмат апярэдзіў ён Андрэя Кавалёва і Андрэя Скабелку, заняўшых адпаведна другое і трэцяе месцы. ■

# Зверава ў 1/8 фіналу

**Аляксей СТАЎСКІ**

У шаснаццаць лепшых тэнісістак турніру ўжо прабілася знакамітая беларуская тэнісістка Наташа Зверава на турніры з серыі «Вялікага шлема» «Ралан Гарос», які праходзіць у сталіцы Францыі. Перамога ў гэтым адкрытым чэмпіянаце дае пераможцу гарантыю пакінуць сваё імя ў гісторыі. Наташа Зверава – ветэран беларуская тэніса, некалі сёмая ракетка свету і неадназовая пераможца падобных турніраў у парным разрадзе, даўно не дабівалася якіх-небудзь значных поспехаў у адзіночку. Гэты выхад у 1/8 турніру можа стаць для Наташы апошнім шанцам неяк праявіць сябе за апошнія гады, бо відавочна, што яе тэнісная кар'ера блізкая да завяршэння. Ды пры гэтым поспех удвая ўдалей глядзіца, калі ўлічыць, што сем расійскіх тэнісістак павыляталі з турніру, а адна беларуска – засталася.

У мужчынскім разрадзе таксама занадта вялікае для гэтай стадыі розыгрышу прадстаўніцтва спартсменаў з постсавецкіх краінаў. Украінец Андрэй Мядзведзеў, расіяне Яўген Кафельнікаў і Марат Сафін яшчэ працягваюць барацьбу. І перамога двух з іх, акрамя Кафельнікава, стане сапраўднай сенсацыяй у свеце тэніса. ■

# Дзяржкамдрук ідзе вайной на прэсу

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ Сяргей Папкоў напісаў артыкул — «Народная воля» яго надрукавала. Дзяржкамітэт па друку, «ничтоже сумняшеся», заяўляе, што КХП-БНФ не зарэгістраваная ў мінюсце, а значыць, яе прадстаўнікі не маюць права выступаць у прэсе. Але ж КХП-БНФ атрымала пасведчанне аб рэгістрацыі яшчэ сёлета ў лютым. І «БДГ», і «Народная воля», паводле вынесеных папярэджанняў, маюць права ў месячны тэрмін абскардзіць іх у Вышэйшым гаспадарчым судзе.

Спадзяванні супрацоўнікаў «Народнай волі» на тое, што атрыманыя папярэджанні — чыясьці правакацыя (яны надрукаваныя на ксеракопіях бланкаў Дзяржкамдруку), не апраўдаліся. Галоўны спецыяліст юрыдычнага аддзела Раман Антонаў 31 траўня пацвердзіў факт вынясення папярэджанняў. Прычым яны вынесеныя не адначасова – проста ўсе чатыры падпісаныя 24 траўня. Больш за тое, Р.Антонаў патлумачыў, што «Народная воля» атрымала папярэджанне за публікацыю Сяргея Папкова («распаўсюджванне інфармацыі ад імя палітычных партыяў, прафесійных саюзаў ці іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія не прайшлі ва ўстаноўленым парадку дзяржаўную рэгістрацыю (перарэгістрацыю)») на падставе ліста з мінюста, у якім сцвярджаецца, што КХП-БНФ не прайшла перарэгістрацыю. Смешна дужа. што мінюст не ведае, што тварыцца ў яго епархіі.

Праз два дні гісторыя з папярэджаннямі «Народнай волі» атрымала нечаканы паварот. 31 траўня, пасля сустрэчы рэдактара Іосіфа Сярэдзіча са старшынёй Дзяржкамдруку Міхаілам Падгайным, апошні вымушаны быў падпісаць загад аб адмене абодвух папярэджанняў. М.Падгайны патлумачыў вынесеныя папярэджанні «нерадзівасцю» сваіх падначаленых. І хоць настырны І.Сярэдзіч дамогся адмены папярэджанняў, Дзяржкамдрук празрыста даў зразумець незалежнаму друку, хто ў «журналісцкім» доме гаспадар.

Намеснік галоўнага рэдактара «БДГ» Святлана Калінкіна расцаніла атрыманыя папярэджанні наступным чынам: «Мы яшчэ з месяц таму пісалі, што ў бліжэйшы час па любой надуманай прычыне нам рыхтуюцца вынесці папярэджанне і будуць рыхтаваць нашу газету да закрыцця. Абвінавачванні фармальна сур'ёзныя, але малейшы аналіз паказвае, што іх рыхтавалі юрысты-гумарысты... Папярэджанні нявартыя і выеДзенага яйка. Але ёсць палітычны заказ. Напярэдадні парламенцкіх выбараў і, магчыма, прэзідэнцкіх, ідзе зачыстка тэрыторыяў, і «БДГ» патрапіла пад гэтую зачыстку». «БДГ» збіраецца судзіцца з Дзяржкамдрукам. Дзеля гэтага рэдакцыя прыцягвае ў якасці экспертаў супрацоўнікаў польскага ды ізраільскага пасольстваў у Мінску, а таксама расійскіх вучоных, якія займаюцца праблемамі станаўлення рускага этнасу.

КНГ АБСЕ мела рацыю, калі сцвярджала ў нядаўна абнародаваным аналізе беларускай прэсы за мінулы год, што з набліжэннем парламенцкіх выбараў ціск улады на незалежныя СМІ ўзрасце стократ. ■

# Права, свободы и минюст

**Вероника ЧЕРКАСОВА**

**На днях первый заместитель министра юстиции РБ Виктор Голованов представил журналистам информацию о том, как в Беларуси учреждения юстиции защищают права и свободы граждан. Некоторые цифры оказались весьма «говорящими»...**

Не секрет, что юридическая помощь гражданам любой страны в первую очередь осуществляется адвокатурой. Сегодня в Беларуси действует 146 юридических консультаций, в которых работают 1.320 адвокатов. В прошлом году ими было выполнено более 95 тыс. различных поручений.

Согласно закону об адвокатуре, белорусские адвокаты освобождены от уплаты всех налогов, предусмотренных законодательством, в том числе, от уплаты чрезвычайного чернобыльского налога. В свою очередь, по ряду дел они осуществляют юридическую помощь бесплатно. Поскольку на бесплатную помощь адвокатов может рассчитывать лишь очень небольшое число граждан, предполагается, что круг лиц, которые смогут ею пользоваться, будет расширен. В него планируется включить участников войны, пострадавших от сталинских репрессий, и лиц, проходящих срочную военную службу. Для последних бесплатной будет помощь по всем правовым вопросам, кроме связанных с предпринимательской деятельностью. Однако, уточнить сроки принятия такого решения замминистра затруднился.

Сегодня в Беларуси работает немало иностранных субъектов хозяйствования — представительства крупных фирм, совместные предприятия. Надо заметить, что они весьма неохотно идут на сотрудничество с местными адвокатами, поскольку, согласно белорусскому законодательству, если помощь адвоката окажется неквалифицированной, он не понесет ответственности за свои ошибки. Фирма же из-за этого может столкнуться с серьезными убытками. А потому зарубежные субъекты хозяйствования предпочитают обращаться к лицам, которые имеют лицензии на право оказания юридических услуг, поскольку они в случае «прокола» несут за ошибку ответственность всем своим имуществом. В связи с этим в законодательство предполагается внести изменение, согласно которому адвокат должен будет нести индивидуальную ответственность за неисполнение своих обязанностей, а коллегия адвокатов получит право создавать соответствующие фонды для оказания помощи своим членам.

Кроме того, минюст собирается внести в законодательство изменения, которые дадут коллегии адвокатов и самому министерству право в предусмотренных законом случаях приостанавливать деятельность адвоката.

В состав местной исполнительной власти входят органы записи актов гражданского состояния. В 1999 году органами ЗАГСа было выдано 142.519 свидетельств о смерти и 94.442 акта о рождении. Цифры о многом говорящие... Не менее выразительно выглядят данные, касающиеся состояния института семьи в нашей стране: на 73.087 заключенных в прошлом году браков пришлось 40,4 тыс. разводов.

Еще один орган, работу которого координирует минюст, — это нотариат. В настоящее время в стране действует 199 государственных нотариальных контор и шесть филиалов, в которых работают 722 государственных натариуса и 129 консультантов. Кроме них, в стране работает 71 частный нотариус. За прошлый год государственными нотариусами было взыскано в доход государства более 1,1 триллиона рублей (неденоминированных) государственной пошлины, и еще 150 млрд. рублей (неденоминированных) было получено за оказание платных услуг. Частные нотариусы за это же время взыскали в доход государства 381 млрд. рублей государственной пошлины и 80 млрд. рублей за оказание дополнительных платных услуг. Таким образом получается, что за прошедший год один государственный нотариус в среднем взыскал в доход государства 1,7 млрд. рублей, а один частный нотариус — 5,4 млрд. рублей. Почувствуйте разницу...

В соответствии с возложенными на министерство юстиции функциями, оно проводит экспертизу всех нормативных актов, которые принимаются министерствами и ведомствами, органами республиканского управления. С недавнего времени экспертизу проходят также все решения областных советов и облисполкомов. Однако, как установила проверка, далеко не все нормативные акты, принятые Мингорисполкомом и затрагивающие права и свободы граждан, прошли экспертизу в минюсте, и не исключено, что некоторые из них не соответствуют конституции и законам РБ.

В настоящее время в Беларуси имеется 154 районных и городских суда, в которых работают 805 судей. За прошлый год ими осуждено 59.862 человека, из которых 6.110 — несовершеннолетние. Всего в прошлом году районными и городскими судами рассмотрено с вынесением приговора 48.716 уголовных дел и 113.534 гражданских. Заметим, что в 1998 году на 10 тыс. населения в Беларуси было осуждено 72 человека, в 1999 году этот показатель составил 72,5 человека. Однако, по словам Виктора Голованова, «будет неверным считать, что по уровню преступности мы идем «впереди планеты всей». По его словам, «во многих странах эти цифры умышленно занижаются, очень многие страны эти данные засекретили и не выдают. Так, когда мы попытались получить такие данные в странах Прибалтики, чтобы составить представление о том, как выглядит Беларусь на фоне других стран, нам эти цифры не дали».

Говоря об отношениях между общественными правозащитными организациями и министерством юстиции Виктор Голованов заметил, что серьезного взаимодействия между ними не существует. По его словам, общественные правозащитные организации иногда присылают в минюст некоторые запросы по разъяснению отдельных положений законодательных актов, на все их вопросы обязательно даются ответы, «но точек соприкосновения с ними на сегодняшний день у нас нет».

Как бы там ни было, несмотря на достаточно большое количество обращений граждан в суды, по словам замминистра, наши люди пока не спешат обращаться туда для решения возникших конфликтов и спорных проблем. Возможно, в Беларуси еще не сформировалось правовое самосознание, а может, это говорит просто о низком уровне доверия граждан к отечественной судебной системе. ■

# Сямён Шарэцкі: «Перамовы для Лукашэнкі – гэта дымавая завеса»

**Хутка споўніцца год, як старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання, разагнанага пасля рэферэндуму 96-га года, Сямён Шарэцкі знаходзіцца ў вымушанай эміграцыі ў Літве. НАША СВАБОДА звязалася са спікерам парламента, які прызнаецца ва ўсім свеце адзіным законным прадстаўнічым органам, каб даведацца ягоную ацэнку цяперашняй сітуацыі на Беларусі і бліжэйшых перспектываў краіны. Гутарку карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ з Сямёнам Шарэцкім пачаў з самых апошніх падзеяў.**

***– Сямён Георгіевіч, да Вас, мабыць, дайшла ўжо інфармацыя пра сустрэчу Аляксандра Лукашэнкі з удзельнікамі так званага «шырокага дыялога» 30 траўня. Як бы Вы пракаментавалі гэтую падзею?***

– Гэтага трэба было чакаць з самага пачатку, бо як яшчэ можа паводзіць сябе нелегітымны ўрад? Хочацца верыць, што тыя, хто дагэтуль вераў у нейкія перамовы з антыканстытуцыйнай уладай, цяпер зразумеюць: перамовы для Лукашэнкі – гэта дымавая завеса, якая скарыстоўваецца дзеля таго, каб яшчэ мацней замацавацца ў крэсле, якое захісталася пад ім.

***– Увогуле, Сямён Георгіевіч, падзяліцеся, калі ласка, сваёй ацэнкай унутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі.***

– Я яе ацэньваю як складаную, і з кожным днём сітуацыя пагаршаецца ўсё больш і больш. Апошняя падпісаная Лукашэнкам дамова аб стварэнні ваенна-палітычнага блока паставіла Беларусь у цэнтр той шавіністычнай палітыкі, якую праводзіць Расія. Я яшчэ раз хачу нагадаць, што ўсе дакументы, якія падпісваюцца антыканстытуцыйным нелегітымным урадам Лукашэнкі, нелегітымныя і іх чакае такі ж лёс, што і пакт Молатава-Рыбентропа.

Я вельмі абураны тым, што міралюбівую нейтральную Беларусь цягнуць у ваенныя саюзы. Ды што тут гаварыць, калі ў лукашэнкавым урадзе ўсе значныя пасады, пачынаючы ад прэм'ера, займаюць не беларусы; нават не рускія, якія нарадзіліся на Беларусі. Ну, дзе вы бачылі, каб культурай, навукай кіраваў былы афіцэр іншай дзяржавы, няўжо міністр замежных справаў, які прадстаўляе тую ж кантору, што і Пуцін, будзе праводзіць незалежніцкую палітыку? Вядома ж, не, ён праводзіць шавіністычную палітыку.

***– Сямён Георгіевіч, калі шчыра: ці ёсць верагоднасць, што беларускія ўлады правядуць увосень справядлівыя дэмакратычныя выбары ў парламент?***

– Вы што, дзіця малое?.. Няўжо аб гэтым можна гаварыць? Якія могуць быць свабодныя выбары, калі ўзурпіраваныя ўсе сродкі масавай інфармацыі? Калі б хоць за паўгода да ўсіх СМІ быў адкрыты доступ, то толькі тады можна было б гаварыць пра нейкія выбары. З другога боку, пра выбары ў які парламент вы гаворыце – у той, што Лукашэнка прызначыў? Дык навошта выбары, калі ён можа ізноў яго прызначыць.

***– Няўжо ўсё так дрэнна? І Еўропа, усе міжнародныя дэмакратычныя інстытуты не здолеюць дапамагчы Беларусі вярнуцца ў цывілізаваны свет?***

– Не трэба за мяне думаць – я так не думаю. Ніякая Еўропа, ніякія Злучаныя Штаты за беларускі народ ягоныя праблемы не вырашаць – яны могуць толькі дапамагчы ў іх вырашэнні. Калі беларусаў задавальняе галеча, калі ім падаецца, што топчуць іх гонар, самасвядомасць, – ну, што ж... Калі ж самі зразумеем, што далей гэтага цярпець нельга, тады і толькі тады мы зможам зрабіць сваю справу.

***– І апошняе пытанне, Сямён Георгіевіч. Як Літва ўспрыняла прызначэнне на пасаду намесніка міністра абароны Беларусі генерал-лейтэнанта Уладзіміра Усхопчыка? (Супраць У.Усхопчыка пракуратура Літвы ўзбудзіла крымінальную справу па артыкулах «наўмыснае забойства з ужываннем агністрэльнай зброі» і «нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў». У ноч на 13 студзеня 1991 года савецкія войскі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Усхопчыка танкамі падавілі паўстанне за незалежнасць у Вільнюсе: 13 чалавек загінулі, сотні пацярпелі. Двойчы – у 1992 і 1994 гадах – літоўскія ўлады патрабавалі ад Беларусі выдачы У.Усхопчыка, на што афіцыйны Мінск адказаў адмовай. – Р.Б.)***

– У Вільнюсе з гэтай нагоды адбыўся мітынг, і не адзін мітынг. Уся Літва «стала на вушы», пратэстуючы супраць злачынства, учыненага нелегітымным антыканстытуцыйным беларускім рэжымам супраць літоўскага народа. ■

**Інтэрв'ю ўзяў Рыгор БУЯН**

# «Народная эканоміка»

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Лозунг «Польскае, бо добрае», шырока распаўсюджаны ў Польшчы, сёння ўсё часцей гучыць і ва ўсім свеце. Канешне, у гэтых словах можа і крышку замнога патрыятызму, але ж пагадзіцеся, што ён гучыць больш імпэтна за наша «Купляйце беларускае!» Бо тут, акрамя патрыятызму, няма ніякіх абяцанняў наконт якасці.**

А між тым не толькі дзякуючы рэкламе пашыраецца польскі экспарт. У прыватнасці, амаль усе ведаюць, што польскія прадукты харчавання маюць і прывабны знешні выгляд, і добрую якасць. Аб гэтым сведчаць і дадзеныя статыстыкі: буйнейшымі спажыўцамі польскага харчавання з'яўляюцца сёння краіны Еўрапейскага Саюза (43% усяго экспарту), яшчэ 36 працэнтаў купляюць краіны былога СССР, пераважна Расія.

Узнікае пытанне, чаму так? Чаму калгас у нас даўно стаў сімвалам заняпаду? Чаму, у рэшце рэшт, у нас няшмат чаго ёсць на продаж, а таго, што ёсць, самім не хапае? У самым агульным выглядзе адказ будзе такім: Польшча рашуча адкінула сацыялізм і даўно стала капіталістычнай краінай. А гэта азначае, што ў зямлі, у прадпрыемстваў ёсць рэальны гаспадар. Яму няма ніякай патрэбы, як нашым калгаснікам, ад радавога да старшыні, выпрацоўваць у сабе пачуццё гаспадара. Ён ёсць такім на самой справе. А «пачуццё гаспадара» патрэбнае хіба што сабаку.

Калгасы і саўгасы ствараліся ў Польшчы толькі на казённых землях. А ўласніку належала каля 90% зямель сельскагаспадарчага прызначэння. Усе пасляваенныя гады краіну карміў селянін-аднаасобнік, з невялічкім надзелам зямлі, да 7 га у сярэднім. А сёння, калі сацыялістычныя адносіны змяніліся на рынкавыя ва ўсёй эканоміцы, гэты селянін творыць цуды. Польскі аднаасобнік, нягледзячы на ўсялякія «шокавыя тэрапіі», не толькі не знізіў падчас рэформы аб'ёмы вытворчасці, а нават пераўзышоў іх па многіх паказчыках.

Калі ў чалавека ёсць разуменне праблемы, ён робіць рацыянальныя захады, каб яе вырашыць. Каб крочыць наперад, Польшчы былі патрэбныя інвестыцыі, а грошы даюць тады, калі ёсць гаспадар, чалавек у поўным сэнсе адказны. Таму перш-наперш правялі прыватызацыю перапрацоўчых прадпрыемстваў. А паколькі рабілася гэта ва ўмовах наследаванага ад сацыялізму таварнага дэфіцыту, калі не сказаць голаду, то на самым пачатку перапрацоўка сельгаспрадукцыі стала вельмі выгадным, рэнтабельным заняткам. А раз так, то ў галіну пайшлі інвестыцыі як айчынныя, так і замежныя. Рынкавая эканоміка дэмакратычная ў тым сэнсе, што яе патрабаванні аднолькавыя для ўсіх суб'ектаў гаспадарання. Але, у адрозненне ад іншых, сялянскія гаспадаркі не заўсёды могуць ім адпавядаць. Таму дзяржава змушаная аказваць ім падтрымку. Зрэшты, гэта робіцца і ў Беларусі. Але як?

За апошнія гады машынны парк калгасаў ды саўгасаў зышоў амаль на нішто. А польскія сялянскія гаспадаркі ў гэты час абнавілі сваю тэхнічную базу ў якасным сэнсе, павялічылі ў колькасным. Беларуская вёска старэе, разбураецца яе сацыяльная інфраструктура, многія населеныя пункты, там дзе адмененыя аўтобусныя маршруты, практычна выключаныя з адміністрацыйнай ды сацыяльнай сістэмы грамадства. У многіх вёсках нават радыёкропкі не працуюць, ёсць такія, дзе ніхто не выпісвае газетаў.

У Польшчы зусім іншы малюнак. Катэдж становіцца нормай жыцця, як і спадарожнікавае тэлебачанне. Прычым няма нічога падобнага да нашых «замкавых» гарадкоў, пабудаваных у самых зручных месцах «нічыйнай» зямлі беларускай невядома на якія грошы. А тут разумееш, што селянін будуецца і купляе тэхніку на грошы заробленыя, скарыстоўваючы тую дапамогу, якую аказвае дзяржава. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ўжо некалькі гадоў запар польскія сяляне не бягуць у гарады, а сярод сельскага насельніцтва каля паловы складаюць людзі ва ўзросце 33 гадоў. Можна лічыць, што ў Польшчы створаная многаўкладная эканоміка, неабходнасць якой у Беларусі дэклараваная як мэта. Па колькасці абсалютную перавагу маюць аднаасобныя сялянскія гаспадаркі, колькасць якіх перавышае 2 мільёны, астатніх (гаспадаркі дзяржаўнай казны, кааператывы, прадпрыемствы замежнай ды змешанай уласнасці) – крыху болей за 5 тысяч.

У нас, што тычыцца тарварнасці, сітуацыя падобная. Але не толькі таму, што абсалютная большасць вытворцаў мае ў распараджэнні толькі «соткі» ды дачныя ўчасткі. На іх вялікі ўраджай не збярэш, як бы ні шчыраваў. А пераважна таму, што нашы калгасы і саўгасы, маючы зямлі нямерана, буйнатаварныя толькі па памерах, а не па ўраджаях ды прывагах-надоях. Прынамсі, маючы 9/10 усіх сельгасугоддзяў, яны ўжо не даюць і паловы валавага сельскагаспадарчага прадукту.

І ў польскага сялянства мноства праблемаў. Адна, і мусіць самая галоўная, звязаная з тым, што рынак, стымулюючы вытворцу да павелічэння аб'ёмаў, правакуе сітуацыю перавышэння прапановы над попытам, а значыць, і зніжэння цэнаў. Звычайна дзяржава кампенсуе сялянам іх страты ад зніжэння цэнаў на ўнутраным рынку ці даплачвае за экспарт прадукцыі за мяжу з тым, каб ён быў там канкурэнтаздольным. Так робіцца ў краінах Еўразвязу, нашмат багацейшых за Польшчу. А Польшча пакуль такіх магчымасцяў не мае.

Нашыя калгасныя патрыёты засяроджваюць увагу менавіта на гэтай з'яве, называючы яе крызісам перавытворчасці. Мы, маўляў, усё з'ядзім і яшчэ не хопіць. А калі трэба, то калгаснікам і капейкі не заплацім. Што і робіцца. Таму за 10 гадоў калгасная вытворчасць скарацілася ўдвая, і ўсё наказвае на тое, што сітуацыя стабілізуецца на нулявым узроўні. Бо зноў лета пачынаецца з зазімка, з гібелі пасеваў, з утраты траваў першага ўкосу. У Польшчы, якую таксама не абмінаюць прыродныя катаклізмы, цяжкасці іншыя. Прынамсі, асабліва цяжкім быў мінулы год. Таму што ў краіне стварыліся велізарныя запасы не запатрабаванай рынкам сельгаспрадукцыі. Перавытворчасць яе зарэгістраваная амаль паўсюль у свеце, за выключэннем, зразумела, такіх краінаў, як Беларусь. У дадатак здарыўся фінансавы крызіс у Расіі, якая з'яўляецца буйнейшым спажыўцом польскіх прадуктаў.

Хацелася б нам ці не, але мы будзем змушаныя пайсці «польскім» (літоўскім, нямецкім і г.д.) цывілізаваным шляхам. Таму веданне таго, што можа чакаць у дарозе, уяўляецца карысным. Польска-беларускі форум, першае паседжанне якога адбудзецца 16 чэрвеня ў Брэсце, адной з сваіх мэтаў мае менавіта практычна-асветніцкую. Яго ідэя, а мяркуецца, што ён стане пастаянна дзеючым, належыць амбасадзе Рэспублікі Польшча ў Мінску, персанальна паслу спадару Марыушу Машкевічу. Ён лічыць, што Беларусь і Польшча павінны супрацоўнічаць як краіны-суседзі, што да гэтага змушаюць доўгатэрміновыя, стратэгічныя інтарэсы нашых краінаў.

А што тычыцца непасрэдна дадзенага праекта, то ён выклікаў зацікаўленасць. З польскага боку, які прадстаўлены ў большасці фермерамі ды бізнесменамі, кіраўнікамі перапрацоўчых прадпрыемстваў, яна выказаная вельмі выразна. Сярод суайчыннікаў найбольш актыўнымі таксама выказваюць сябе фермеры і прадпрымальнікі. Аднак і мінсельгасхарч Беларусі дэклараваў сваю прыхільнасць гэтай ініцыятыве, а новы старшыня Брэсцкага аблвыканкама нават пагадзіўся з прапановай ажыццявіць ганаровы патранаж над першым паседжаннем і забяспечыць яго арганізацыйна. Думаецца таму, што на самой справе многія праблемы пагранічнай вобласці можна вырашаць сумесна з польскім бокам.

Ініцыятыўная польска-беларуская група, якая рыхтуе форум, прыйшла да высновы, што напачатку праца будзе ісці па трох, у асноўным, напрамках: фермерская рабочая група будзе займацца праблемамі, у шырокім плане, вытворчасці сельгаспрадукцыі; другая група – праблемамі перапрацоўкі, трэцяя – арганізацыяй стажыровак беларускіх фермераў у польскіх сялянскіх гаспадарках. Магчымыя і іншыя формы супрацоўніцтва. Іх выбар будзе залежаць ужо ў асноўным не ад ініцыятыўнай групы, а ад канкрэтных людзей, якія змогуць наладзіць прамыя паміж сабой кантакты. Як уяўляецца, гэта можа быць адначасова і «народнай дыпламатыяй», і «народнай эканомікай». Застаецца адно – чакаць вынікаў. ■



ТЭНДЭНЦЫІ

# Як у Маскве бюджэт дзялілі

Сымон ШПАКОЎСКІ

**Днямі прадстаўнікі «палатак» вярнуліся з Масквы з радаснай навіной – нарэшце прынялі бюджэт беларуска-расійскага саюза. І, маўляў, цяпер у нядобразычліўцаў не будзе падставаў казаць, што саюз развальваецца. БТ трубіла пра эпахальнае дасягненне некалькі дзён, у той час як ніводзін з расійскіх каналаў нават не абмовіўся пра яго.**

На самой справе на гэтую навіну і ў Беларусі не звярнулі асаблівай увагі. І зусім дарэмна. Гэта толькі здаецца, што гульні афіцыйных палітыкаў у беларуска-расійскі саюз



нікога асабіста з нас, смяротных, не датычацца. Яны можа і не датычыліся, калі б нашы ды расійскія інтэгратары не гулялі ў аб'яднанне за кошт менавіта нашых кішэняў.

На галовы дэпутатаў цяпер зваліўся зусім немалы кавалак сыру. Бюджэт складае амаль 80 млн. долараў ЗША, ці 2.230 млрд. расійскіх рублёў. З іх 35% (амаль 26 млн. долараў) павінна ўнесці з уласнага бюджэту Беларусь, а 65% – Расія. Пакуль дэпутаты разважалі, куды падзець грошы, паўнамоцтвы па размеркаванні бюджэтных сродкаў нечакана ўзяў на сябе Пастаянны камітэт, які быў створаны летась. На пасаду яго старшыні яшчэ тады быў прызначаны былы кіраўнік справамі адміністрацыі Ельцына Павел Барадзін. Шматгадовы вопыт працы ў адміністрацыі і асабліва клопаты па рэстаўрацыі крамлёўскіх будынкаў навучылі яго абыходжанню з грашыма. Талент і спрыт Барадзіна дзяліць грошы пацвердзіла нават пракуратура Швейцарыі, якая да гэтага часу горача жадае бачыць Паўла Паўлавіча.

Спрыт Барадзіна толькі зараз ацанілі і дэпутаты. Калі яны прыехалі ў сярэдзіне траўня ў Мінск, каб прымаць бюджэт, і пазнаёміліся з яго праектам, у бедных аж дух заняло: грошы падзялілі без іх, ды яшчэ як падзялілі! Павел Барадзін пакінуў у рэзерве Пастаяннага камітэта больш за паўмільярда расійскіх рублёў (амаль 20 млн. долараў), размеркаваўшы па канкрэтных саюзных праграмах толькі крыху больш за тры чвэрці бюджэту.

Дэпутаты маюць справу з бюджэтам ужо ў трэці раз, і іх гонар, зразумела, быў закрануты. Яны не прынялі бюджэт і стварылі пагаджальную камісію, вызначылі ганцоў, якія б дамовіліся з Барадзіным адносна шырэйшага фінансавання саюзных праграмаў і пераразмеркавання сродкаў. Як вы думаеце, да чаго можа прывесці такі дыялог?

Дэпутатам неахвотна вярнулі крыху сыру. Для іх гэтае рашэнне ўжо было перамогай. Большага і не патрабавалі. Таму пакінулі Барадзіну за мудрае рашэнне амаль 200 млн. расійскіх рублёў ці больш за 6 млн. долараў.

Менавіта такая сума засталася ў якасці рэзерву Пастаяннага камітэта. Пры гэтым сродкі на функцыянаванне камітэта закладзеныя ў бюджэце асобным радком. Акрамя таго, дэпутаты пакінулі Пастаяннаму камітэту права разам з членамі пагаджальнай камісіі пераразмяркоўваць ужо размеркаваныя і распісаныя ў бюджэце сродкі пры неабходнасці.

Дарэчы, сам бюджэт атрымаўся вельмі цікавым. Напрыклад, у пастанове, якой ён быў зацверджаны, ёсць артыкул, паводле якога ўжо зараз у распараджэнне Пастаяннага камітэта выдзяляецца больш за паўтара мільёна долараў «для фінансавання неадкладных мерапрыемстваў па рэалізацыі палажэнняў Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы». А ёсць і артыкул, паводле якога «пасля пераходу на казначэйскую сістэму выканання бюджэту (зараз, разумееце, такой сістэмы кантролю яшчэ няма. – **С. Ш.**) надаць Пастаяннаму камітэту функцыі галоўнага размеркавальніка сродкаў бюджэту».

У самім бюджэце здзіўляюць ужо першыя артыкулы. Напрыклад, устаноўленыя памеры ўзносаў, якія бакі павінны ўнесці да 30 чэрвеня гэтага года. Так, Беларусь павінна прафінансаваць рэалізацыю бюджэту ў памеры 140 млн. расійскіх рублёў (4,5 млн. долараў), а Расія чамусьці толькі ў памеры 26 млн. рублёў (менш за 1 млн. долараў).

Напэўна, айчынныя «палатачнікі», якія аднагалосна выказаліся за такі дакумент, лічаць, што беларускім настаўнікам зарплата не так патрэбная, як расійскім. Увогуле беларуская дэлегацыя ў саюзным Парламенцкім сходзе даўно ўжо не задумваецца пра патрэбы свайго народа. Калі б не расійскія дэпутаты, якія таксама маюць вопыт грошы дзяліць, то беларускія прынялі б любы бюджэт. Для іх важны сам факт, бо гэта падтрымлівае міф аб плённасці саюза Беларусі і Расіі. Таму не прынялі бюджэт нават у такім выглядзе яны не маглі. ■

# На память о себе



Наталья РАДИНА

**Эти безнадежно больные дети в основном из Боровлян, из онкогематологического центра. Можно оставить их в больнице в последние дни, можно забрать домой, но всюду и родителям, и детям нестерпимо тяжело жить с мыслью о смерти. И для того, чтобы последние дни человека, который должен уйти из этого мира, не были заполнены лишь собственным страхом смерти и отчаяньем близких, люди могут обратиться в Республиканский детский хоспис.**

## «Команда заботы»

Хоспис – не стационарное учреждение, все его пациенты живут дома, в семье. Нельзя допустить, чтобы дети видели, как умирают их недавние товарищи по играм и соседи по палате, нельзя, чтобы они знали, что присутствие здесь означает неизбежный уход из жизни.

Хоспис предназначен не для лечения, а для обеспечения качества жизни безнадежно больного человека в его последние дни или месяцы. Облегчить жизнь больного человека – это, в первую очередь, лишить его боли. Больному ребенку бесплатно предоставляются все необходимые обезболивающие препараты.

К семье ребенка прикрепляется «команда заботы»: врач, медсестра, по необходимости сиделка, психолог, юрист. Если родители нуждаются в духовной поддержке, то хоспис приглашает священников соответствующей конфессии.

Сейчас в хосписе 45 больных, и всего 2 врача, 4 медсестры, один психолог, 3 социальных работника. На каждого сотрудника в среднем приходится 10 пациентов. Но поскольку дети живут дома и не все нуждаются в ежедневной медицинской и психологической помощи, на сотрудника хосписа приходится по 2-3 вызова в день. Дети живут в разных концах города, а «команда заботы» ездит на общественном транспорте. При этом в хосписе круглосуточно дежурит медсестра, все сотрудники обеспечены пейджерами, и при необходимости в любой момент готовы прийти на помощь. Ночные звонки домой от обеспокоенных родителей для работников хосписа – привычное дело.

Большая часть пациентов – минчане, но есть и дети, живущие в 200 км от Минска. Для таких семей с 6 утра и до ночи работает бригада скорой помощи. Каждый день ездить в такую даль невозможно. При дневном центре Республиканского детского хосписа есть две квартиры для иногородних семей, в которых временно могут проживать родители с больным ребенком, нуждающимся в постоянном медицинском контроле.

Ребята часто боятся возвращаться в онкогематологическую больницу, побывав там однажды. Лечение раковых заболеваний очень тяжелое и болезненное, дети среднего и старшего возраста, не говоря уже о малышах, боятся его. А в хосписе уютная, чистая квартира, есть телевизор, игровой компьютер, игрушки, садик для прогулок.

Но квартиры только две, а семей из провинции, нуждающихся в поддержке хосписа, намного больше. В ближайшее время предполагается открытие региональных хосписов в Витебске и в Гомеле.



## «Ты будешь жить в сказочной стране...»

В хосписе не дают детям одного – лежать и думать о смерти. Поэтому не так давно был создан дневной центр хосписа для занятий с больными детьми. В зависимости от степени тяжести заболевания дети поделены на 4 группы с названиями, напоминающими о летних лагерях отдыха: «Морские звезды», «Южный ветер», «Белая ворона», «Солнечный зайчик». И как бы нет болезней, а есть занятые делом дети, которые любят рисовать, делать из цветной бумаги и соломки игрушки, вышивать цветными нитками и бисером. Сколько таких вещей скопилось в центре! Все они любовно развешены на стенах рядышком с фотографиями мальчиков и девочек. Они уже ушли в тот сказочный мир, который так любили рисовать на бумаге карандашами и красками. А рисовали они солнечные города, где живут улыбающиеся добрые люди...

Последние дни человека уничтожает даже не столько боль от недуга, сколько страх смерти. Не каждый ребенок понимает, что с ним происходит. Но многие интуитивно чувствуют, догадываются, глядя на затравленные, испуганные глаза родителей. Если дети, в отличие от взрослых, хотят говорить о смерти, то их готовят к переходу в другой, более совершенный мир: ***«Подумай о том, как здорово ты жил с мамой и папой,*** – говорят им, – ***какая у тебя добрая и любящая семья. Ты сейчас уходишь жить в другой замечательный мир, где нет боли и страданий. Там ты будешь молиться за своих родных, которых ты так любишь, и этим будешь им очень помогать».***

После таких бесед у детей пропадает страх, дети начинают проявлять интерес к каждому прожитому дню, заниматься любимым делом. Как все дети, они продолжают жить с надеждой до последнего дня, но смерть уже не кажется им такой страшной.

Детей с тяжелой степенью инвалидности учат не только держать ложку, расческу, карандаш, но и объясняют, как он всем нужен, как он всеми любим. ***«Пускай ты не можешь самостоятельно кушать или одеваться, ты можешь писать замечательные стихи. Ты можешь рисовать замечательные картины. А вообще ты можешь быть просто хорошим человеком, которого любит мама».***

## Здоровые тоже нуждаются в заботе...

За 5 лет хоспис помог 160 семьям. В каждой семье в его услугах нуждалось от 3 до 5 человек.

Иногда близкие не выдерживают стресса после смерти детей. За годы работы хосписа случились три самоубийства. Не смогли пережить смерть своего ребенка отцы. Психологи объясняют факт суицида именно у мужчин тем, что на мужскую психику начинает давить несостоявшийся комплекс защитника. Отец начинает мучительно думать о том, что «он такой большой, сильный, он должен был защитить своего ребенка, но ничего не смог сделать».

Психологи хосписа работают с родителями и для того, чтобы предотвратить распад семьи после смерти ребенка. Часто после этого супруги становятся друг для друга болезненным напоминанием о беде. Самыми большими радостями в хосписе считаются случаи, когда в семье умершего ребенка появляются новорожденные. Ведь это настоящая победа мужества, когда люди, пережив трагедию, не боятся начать жизнь заново!

В дневном центре проводят занятия и со здоровыми детьми, которые растут в семье, где есть безнадежно больной ребенок. Родители, как правило, измотаны уходом за их тяжело больными братьями или сестрами, и здоровые дети начинают чувствовать себя одинокими, никому не нужными. Их постоянно одергивают, все стрессы родителей начинают давить на психику этих детей. Часто дети могут винить себя в болезни брата или сестры («Вот если бы я не подрался с ним, то он бы не заболел...»), начинают думать, что могут заболеть точно также, и даже хотят этого («Потому что тогда мама будет меня опять любить»).

В дневном центре с этими детьми работают волонтеры, социальные педагоги, психологи. Дети общаются со своими сверстниками, издают свою газету, разыгрывают спектакли, гуляют в Ботаническом саду – сдруживаются, словом, попадают в совершенно иную психологическую атмосферу, чем та, которая окружает их дома.

## Бисер памяти

Шестилетняя Аннушка весит всего 11 килограмм, она парализована, дышит через трахиостамическую трубку, двигать может только пальчиками. Она макает пальчики в краску – и так рисует. А еще Аннушка огромными усилиями освоила плетение и теперь, перебирая пальчиками бисер, плетет маленькие милые украшения. На память о себе... ■

## ПАДПІСКА

Вы зможаце атрымоўваць нашу газету з чэрвеня 2000 г., калі пералічыце паштовым пераводам падпісную суму на разліковы рахунак рэдакцыі: **3012205160015 у аддзяленні «Цэнтральнае» ААТ «Белбізнесбанк» г.Мінска, код 493. Адрас: 220123, г.Мінск, п/с 103. Атрымальнік плацяжу: Рэдакцыя газеты «Наша Свабода».**

Падпісную квітанцыю (справа) для афармлення падпіскі трэба выразаць нажніцамі. У графе «Для пісьмовага паведамлення» **адзначце свой паштовы адрас, укажыце, з якога месяца і на які тэрмін Вы афармляеце падпіску.**

**Паштовы перавод**, які можна зрабіць **у любым аддзяленні сувязі краіны** ў любы час, забяспечыць вам дастаўку газеты з пачатку наступнага каляндарнага месяца. **Кошт падпіскі на адзін месяц 675 руб.**

Рэдакцыя прапаноўвае сваім падпісчыкам аформіць падпіску праз аддзяленні «Прыорбанка» і «Белбізнесбанка». Запоўніце нашу квітанцыю, у графе «Від плацяжу» адзначце, з якога і па які месяц вы афармляеце падпіску.

### ОТДЕЛЕНИЯ БАНКОВ, ПРИНИМАЮЩИХ ПОДПИСКУ НА ГАЗЕТУ «НАША СВАБОДА»

**«ПРЫОРБАНК»:**

**Центральный офис**
220002, **г.Минск**
ул.В.Хоружей, 31А
**Филиал 0101**
220035, **г.Минск**
ул.Тимирязева, 46
**Филиал 0113**
**г.Минск**
ул.Комсомольская, 13
**Филиал 0106**
223210, Минская обл., **г.Червень**
пл.Свободы, 5
**Филиал 0108**
222621, Минская обл., **г.Несвиж**
ул.Ленинская, 162
**Головной филиал по Витебской обл.**
210026, **г.Витебск**
ул.Толстого, 3
**Филиал 0203**
211030, **г.Орша**
ул.Мира, 11
**Головной филиал по Могилевской обл.**
212030, **г.Могилев**
ул.Первомайская, 63
**Филиал 0306**
213760, **г.Осиповичи**
ул.Крупской, 33
**Головной филиал по г.Минску и Минской области**
220600, **г.Минск**
ул.Радиальная, 38А
**Филиал 0111**
220123, **г.Минск**
ул.Варвашени, 42А
**Филиал 0114**
**г.Минск**
ул.Трудовая, 10
**Филиал 0107,**
222310, **г.Молодечно**
ул.Вялікі гасцінец, 113А
**Филиал 0104**
223710, **г.Солигорск**
ул.Богомолова, 16А
**Филиал 0202**
211440, **г.Новополоцк**
ул.Блохина, 8
**Филиал 0302**
213800, **г.Бобруйск**
ул.Октябрьская, 149А
**Головной филиал по Гомельской обл.**
246050, **г.Гомель**
ул.Первомайская, 20
**Филиал 0401**
247760, **г.Мозырь**
ул.Интернациональная, 162
**Головной филиал по Брестской обл.**
224013, **г.Брест**
б.Шевченко, 6/1
**Филиал 0505**
225320, **г.Барановичи**
ул.Ленина, 71
**Филиал 0508**
225520, **г.Пинск**
ул.Советская, 14
**Головной филиал по Гродненской обл.**
230023, **г.Гродно**
ул.Мостовая, 37
**Филиал 0605**
213900, **г.Волковыск**
ул.С.Панковой, 58
**Филиал 0603**
231800, **г.Слоним**
ул.Комсомольская, 8
**Филиал 042**
247210, **г.Жлобин**
ул.Первомайская, 39
**Филиал 0404**
247400, **г.Светлогорск**
ул.Ленина, 49
**Филиал 0504**
224005, **г.Брест**
ул.Пушкинская, 16/1
**Филиал 0502**
225215, **г.Белоозерск**
ул.Ленина, 48
**Филиал 0506**
225710, **г.Ивацевичи**
ул.Иркутско-Пинской дивизии, 36
**Филиал 0602**
231300, **г.Лида**, ул.Чапаева, 20

**«БЕЛБІЗНЕСБАНК»:**

**Отделение «Центральное»**
**г.Минск**, пл.Свободы, 17.

ИЗВЕЩЕНИЕ

04002280179

**Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа

Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» с ______ по______2000г. | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Всего | |

Кассир

Плательщик

**Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа

Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» с ______ по______2000г. | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Всего | |

КВИТАНЦИЯ

Кассир

Плательщик

# Мораль и политика

## Известный американский дипломат Генри Киссинджер недавно опубликовал книгу мемуаров. Отрывок из главы «Размышления» редакция предлагает вниманию читателя

Генри **КИССИНДЖЕР**

**На Западе демократия возникла не в результате какого-то единичного решения, а скорее путем эволюции, длившейся не одно столетие. Уникальными особенностями развития плюрализма Запад обязан католической церкви, которая едва ли была демократична по своей внутренней структуре, но сумела заложить основу для плюрализма, упорно борясь за свою независимость от светской власти и ставя моральный закон выше закона государства.**



Это разделение власти между Богом и кесарем являло собой первый шаг на пути к политическому плюрализму и ограничению власти государства. Через несколько столетий плюрализм обрел институционную форму, когда Реформация нанесла удар церковной власти, выдвинув на первый план роль индивидуальной совести. Эти тенденции были ускорены Просвещением, которое сделало акцент на господстве разума; научно-техническими открытиями, которые расширили интеллектуальные горизонты, и капитализмом, который поощрял индивидуальную свободу и инициативу и увеличил численность среднего класса.

Никакая другая культура не прошла подобной эволюции. В исламских обществах отделение мечети от государства является делом сложным, ибо для истинно верующих слова Корана должны распространяться на все проявления даже мирской жизни. Секуляризация неизбежно ведет к напряженным отношениям с религией. В большинстве конфуцианских обществ ни религия, ни внеправительственные группы не создали организации, независимого сообщества или доктрины, способных содействовать появлению какой-либо альтернативы политической власти.

По этим причинам я вообще видел мало смысла в перенесении конституционных принципов, развитие которых на Западе заняло столетия, в разряд преимущественных целей американской внешней политики, которые следовало бы навязывать путем открытого давления, не считаясь с историей и социальными условиями других обществ. Разумеется, для систематических нарушений прав человека не может служить оправданием ссылка на постепенность исторической эволюции. И Соединенные Штаты, будучи верными себе, обязаны бороться за права человека и демократию.

Многие из бед внешней политики проистекают из необходимости устанавливать приоритеты между конкурирующими, а иногда и конфликтующими потребностями. Для этого требуется увязывать американский идеализм с практическими требованиями данной ситуации. Отказ от признания этого дуализма ведет к тому, что в задачи внешней политики впитывают внутриполитические потребности, поскольку конкурирующие группы стремятся навязать свои пылкие представления о справедливости, отстаивая те или иные частные интересы.

Американский идеализм, конечно, является признаком силы Америки — выражением веры, что наше общество всегда способно обновляться, двигаться к новым историческим пределам и создавать новые реалии. Но мы должны позаботиться, чтобы отметание самого понятия пределов не стало постоянной особенностью американского ответа на проблемы международной политики. Ибо признание определенных ограничений является признаком, а, возможно, и наилучшим показателем зрелости как всякого человека, так и общества. Критерием общества служит не отрицание, а надлежащее понимание своих ограничений. Заурядные общества и государственные деятели налагают на себя легко достижимые ограничения. Великие общества и государственные деятели стремятся действовать на пределе своих возможностей. А отказ от каких бы то ни было ограничений ведет к истощению или катастрофе.

Попытка свести внешнюю политику к единственной формуле также идет вразрез с реалиями современного мира. В отношениях США с Европой и Латинской Америкой — регионами, где процветают демократические институты, а войны между основными странами почти немыслимы — вильсонианские принципы, действительно, могут быть доминирующими. Но в Азии страны считают друг друга стратегическими соперниками; невозможно понять их политику без понимания принципов соотношения сил. А в других частях мира — например, там, где силен исламский фундаментализм — правят еще более глубокие, по существу, революционные, настроения.

Для всякого человека, знакомого с историей, изменения предстают как закон жизни. Любая попытка сдержать изменения гарантирует взрыв в конце пути; чем глубже приверженность к статус-кво, тем сильнее будет окончательный удар. Но еще один из уроков истории состоит в том, что чем резче изменение, тем больше вероятность участия в нем насилия. Удачным вариантом является общество или международный порядок, которые могут развиваться органически, без участия насилия — или, по крайней мере, чрезмерного насилия — и без остановки роста. В такой ситуации чувство взаимных обязательств заменяет силу, а прогресс достигается путем согласия. Соединенные Штаты — за единственным исключением гражданской войны — оказались именно в такой ситуации. И также обстоит дело с международными порядками, которые длительные периоды обходились без большой войны.



Мао Цзедун и Генри Киссинджер

Но чем резче поворот, тем меньше можно возлагать надежды на согласие. Сила с неизбежностью заменяет чувство обязательств. Победа ценится выше последовательности; противников уничтожают, а не убеждают. Наиболее очевидным воплощением такой установки являются завоеватель и пророк. Завоеватель не делает тайны из своих замыслов; его миссия состоит в том, чтобы навязать свою волю, хотя, когда его страсть к завоеваниям удовлетворена, он должен рано или поздно перейти от чувства господства к чувству обязательства. Это путь, каким империи достигают легитимности.

Роль пророка более таинственна. Хотя его дело основывается на общественно признанных ценностях, его требования по этой причине еще более универсальны и настойчивы. Уверенность в собственной правоте является источником фанатизма и нетерпимости. Противников истребляют — как зачастую объявляется, для их собственного блага. Господство террора становится нормой, а не отклонением от нормы. Воплощением такой установки является комиссар, который убивает миллионы без сожаления и ненависти ради исполнения абстрактного долга. Вот почему крестовые походы часто приносили столько же разрушений и страданий, как и завоевательные походы.

Тоталитарные ужасы двадцатого столетия должны заставить нас осознать хрупкость сдерживающих начал, свойственных цивилизации. По этой причине я с недоверием отношусь к внешней политике, направляемой в значительной степени идеологией. Ибо идеологии имеют склонность уводить общества, а также международные системы за пределы разумного. Мнимая дихотомия прагматизма и морали кажется мне вводящим в заблуждение подходом. Прагматизм без моральной составляющей ведет к беспорядочной активности, жестокости или застою; моральные убеждения, не умеренные чувством реальности, ведут к самодовольству, фанатизму и отказу от всяких ограничений. ■

**ВАКАЦЫІ**

# Лукашэнка хоча пагаварыць з ТБМ

Кірэй **МАНУЙЛАЎ**

**Днямі Таварыства беларускай мовы распаўсюдзіла адмысловую заяву адносна да некаторых выслоўяў Аляксандра Лукашэнкі на паседжанні гэтак званага дыялога грамадска-палітычных сілаў, які прайшоў 30 траўня ў Палацы Рэспублікі. Тады Лукашэнка сярод іншага сказаў, што гатовы разглядаць праблемныя сітуацыі з «нашым языком», і выказаў шкадаванне, што ў зале няма тэбээмаўскага кіраўніцтва.**

У заяве гаворыцца, што ТБМ, як тое і прадугледжвае ягоны статут, можа і будзе браць удзел у «дыялогу» толькі ў ваколмоўным, а не ў нейкім палітычным фармаце. Маўляў, абмеркаванне грамадскімі арганізацыямі (накшталт Саюза інвалідаў) таго ж Выбарчага кодакса ёсць недарэчным парушэннем Канстытуцыі. А ТБМ цікавяць пытанні стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта і надання беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай наогул. І выключна ў тым выпадку, калі гэта стане зместам «дыялогавых» паседжанняў, ТБМ гатовая на іх прысутнічаць.

Разам з тым, па словах старшыні арганізацыі Алега Трусава, яна гатовая гаварыць з уладамі пра БНУ па-за межамі «дыялога» таксама, карацей, дзе заўгодна. Але сама дзяржава пакуль зацята ігнаруе гэтую ініцыятыву і больш 20 тысяч подпісаў беларускіх грамадзянаў у яе падтрымку, у тым ліку, дарэчы, Саюза палякаў і Саюза літоўцаў. Не зважаючы ні на імёны аўтарытэтных ва ўсім свеце асобаў сярод падпісантаў (як, напрыклад, Барыс Кіт, які ініцыяваў стварэнне падобнага універсітэта ў Наваградку яшчэ на пачатку 90-ых), ні на красамоўныя вынікі перапісу, калі 38 % насельніцтва мовай штодзённага ўжытку назвалі мову беларускую.

Міністэрства адукацыі на ўсе звароты ТБМ даводзіць, што на БНУ няма грошай і што лепш дасканаліць беларускамоўную адукацыю ў іншых вышэйшых навучальных установах. Гучыць дастаткова цынічна, калі ўлічыць, што апошнім часам у нашых ВНУ, наадварот, мае́цца ўстойлівая тэндэнцыя да ўсебаковай дыскрымінацыі беларускай мовы. Кажуць, што, каб спрафанаваць ідэю стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта, карацей, каб «разабрацца» з гэтым, у мінадукацыі рыхтуюць нейкую — загадзя выглядаючую фармальнай — паперу аб пераводзе на беларускую мову БДУ альбо педінстытута. Адпаведна ў назве якой-небудзь з гэтых навучальных установаў з'явіцца слова «нацыянальны».

Але ТБМ збіраецца настойваць на стварэнні менавіта новай беларускамоўнай ВНУ, наважваючыся паўтарыць прэцэдэнт з'яўлення дзесяць гадоў таму гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа – толькі цяпер ужо ў сістэме вышэйшай адукацыі. Алег Трусаў дзеліцца аптымізмам, што і гэта стане рэальнасцю. Прынамсі, за новым прэзідэнтам. На прэзідэнцкіх выбарах 2001 года ТБМ мае намеры падтрымаць таго кандыдата, у чыёй перадвыбарчай праграме будзе пункт аб стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэта. ■

КНІГАРНЯ

# Забойства нацыянальнай ідэі

Вольга АНЦЫПОВІЧ

**Сымон Кандыбовіч. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Бібліятэчка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд». Мн., 2000.**




Нельга сказаць, што пра часы сталінскіх рэпрэсіяў на Беларусі напісана мала. Згадкі ў энцыклапедычных даведніках, агляды ў падручніках па гісторыі, належную ўвагу трагічнай тэме аддаюць публікацыі ў прэсе... Але катастрафічна мала ў нас твораў відавочцаў тых падзеяў. Што зразумела, бо сведкаў злачынстваў засталося ў жывых надта мала, а тыя, што выжылі пасля засценкаў НКУС і савецкіх канцлагераў, імкнуліся ці пакінуць дзяржаву, якая ўпарта хацела іх несправядліва абвінаваціць і «пакараць як шалёных ворагаў савецкага народа», ці ў поўнай немаце жыць у савецкай краіне, стараючыся забыць усё, што адбылося. Першыя сталі эмігрантамі, творы якіх па самім вызначэнні не маглі з'явіцца перад чытачом у савецкія часы, другія, – ненавідзячы тыя часы, баяліся натаваць свае ўспаміны, каб не нашкодзіць дзецям і родным. Таму было ў нас небагата напісанага «ў стол»—для нашчадкаў.

Пра беларускага эмігранта Сымона Кандыбовіча на Беларусі ведаюць мала. «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» змяшчае пра яго невялікі артыкул. Паведамляецца, што С.Кандыбовіч быў гісторыкам з вышэйшай адукацыяй, працаваў настаўнікам, а ў 1932 годзе стаў кіраўніком справаў Савета Народных Камісараў БССР. Арыштавалі Кандыбовіча ў 1940 г. Потым ён уваходзіў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, быў кіраўніком яе агульнага аддзела, удзельнічаў у 2-ім Усебеларускім кангрэсе (чэрвень 1944 г.). З 1963 г. Кандыбовіч працаваў у Інстытуце па вывучэнні СССР, што ў Мюнхене, рыхтаваў матэрыялы для беларускага аддзела радыёстанцыі «Свабода».

Менавіта для перадачаў па гэтай радыёстанцыі Кандыбовіч і напісаў «Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі». На радзіму ж гэты рукапіс трапіў толькі ў 1986 г. І вось праз 14 гадоў пасля гэтага мы маем першае выданне «Разгрому...» асобнай кніжкай.

Унікальнасць выдання заключаецца, у першую чаргу, у аўтарскіх характарыстыках і замалёўках. Менавіта яны пазбаўляюць твор навуковай сухасці, прыводзімыя аўтарам факты і ёсць жывы аповяд пра рэальнае жыццё ў сталінскія часы. У рэчаіснасці заўжды мае значэнне агульная атмасфера, якую цяжка ўявіць сабе наступным пакаленням.

Сённяшні чалавек з цяжкасцю ўявіць сабе такі стан нашага грамадства 30-х гадоў, калі прафесара Камінскага судзілі выключна з-за «меншавіцкага выгляду», ці гісторыю пра студэнта, якога абвінавачвалі ў шпіянажы на карысць Італіі. Студэнт той доўга адмаўляўся ад прызнання віны, а потым напісаў невуку-следчаму, што яго вярбоўшчыкамі былі італьянцы Мікеланджала, Леанарда да Вінчы, Рафаэль і інш. Пасля гэтага следчы цэлыя два тыдні радаваўся, што дабіўся прызнання, і перастаў катаваць студэнта па начах. Магчыма, такія гісторыі перадаюць настроі таго часу, мінскія гарадскія чуткі ці палітычныя анекдоты. Але тым больш гэта цікава, бо адлюстроўвае псіхалагічны стан, па меншай меры, інтэлігенцыі.

Як перабольшванне можна ўспрымаць і характарыстыку Кандыбовічам настрояў большасці людзей («кожная сям'я чакала жахлівых наведвальнікаў... ад страху людзі не кладаліся спаць, апраналіся і без мэты блукалі па пустых вуліцах горада да раніцы»). Такія настроі, здаецца, панавалі пераважна тымі, хто ведаў, што робіцца ва ўладзе насамрэч. Магчыма, і самім Кандыбовічам. Большасць жа шчыра верыла, што іх, ні ў чым не вінаватых, ніхто чапаць не будзе. Такія потым думалі, як піша Кандыбовіч, што ў СССР «адбыўся нейкі пераварот і ўсталявалася лютая дыктатура... бянтэжылі толькі партрэты савецкіх правадыроў, што былі ў кабінеце следчага».

Кніга ахоплівае час з лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. да пачатку Другой сусветнай вайны, расказвае пра некалькі хваляў рэпрэсіяў супраць прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху, змяшчае анатаваны паказнік асобаў, фотаздымкі рэпрэсаваных грамадскіх дзеячаў. Лёгкасць выкладання матэрыялу можа зрабіць кнігу даступнай абсалютна для кожнага, хто жадае навучыцца на гістарычным прыкладзе, каб сфармуляваць свае погляды на сістэму сталінскага таталітарызму, на беларускія страты ад рэпрэсіяў, на перспектывы будучыні. ■

СПОРТ

# Дзмітрый Маркаў выступіць як аўстраліец

Дзмітрый УЛАСАЎ

Вядомы беларускі шаставік, пераможца чэмпіянату Еўропы 1996 года ў закрытых памяшканнях Д.Маркаў у апошнія гады жыў і трэніраваўся ў Аўстраліі, а ў 1999 годзе атрымаў аўстралійскае падданства. Згодна з Алімпійскай хартыяй, за новую каманду спартсмен можа выступаць пасля праходжання трох гадоў з моманту атрымання ім іншага грамадзянства (падданства). Аднак па правілах Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі выступленне за новую каманду дазваляецца праз тры гады з дня апошняга выступлення за ранейшую краіну. Ведаючы гэтыя тонкасці, яшчэ ў 1997 годзе Д.Маркаў, спаслаўшыся на хваробу, адмовіўся прыехаць з Аўстраліі ў Грэцыю на чэмпіянат свету па лёгкай атлетыцы.

Улічваючы адмаўленне Д.Маркава выступаць за Беларусь і на цяперашняй Алімпіядзе, беларускі бок вырашыў не ствараць канфліктнай сітуацыі і дазволіў спартсмену абараняць колеры аўстралійскага сцяга. ■

# Летні адпачынак для беларусаў

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Пачаўся сезон летніх адпачынкаў. Паводле прагнозаў, лета 2000 года не будзе надта адрозніваецца ад папярэдняга. Беларускім турыстам варта чакаць сюрпрызаў не Боскага, а чалавечага паходжання – зменаў ва ўмовах адпачынку, у коштах, нарэшце, у магчымасці патрапіць туды, куды жадае душа.**



## Беларусь

Жадаючым ці змушаным адпачыць у Беларусі, а такіх з прычыны эканамічнага крызісу ўсё болей, варта зыходзіць з прагнозу, што чэрвень і ліпень у Беларусі будуць не асабліва спякотнымі. Хто мае магчымасць скарыстацца даволі таннай пуцёўкай у ведамасны прафілакторый, дом адпачынку ці санаторый, трэба рабіць гэта без ваганняў – у будучыні кошты абавязкова падвысяцца, бо прадпрыемствам прыйдзецца пазбаўляцца ад гэтай раскошы. Шмат такіх аб'ектаў адпачынку ўжо паўсталі на камерцыйныя рэйкі – у першую чаргу тыя, што належаць упраўленню справамі прэзідэнцкай адміністрацыі. Кошты на такіх базах вялікія – напрыклад, на Браслаўскіх азёрах з'явіліся аб'екты, дзе нумар каштуе да 70 у.а. у суткі. Там выдатная абстаноўка, аднак побач няма амаль ніякай структуры для адпачываючых. Напрыклад, тым, хто завітае на базу адпачынку «Слабодка», давядзецца забаўляць сябе самім. Адно суцяшэнне – адзінства з прыродай!

На возеры Нарач з яго турбазамі іншая небяспека – столькі народу, асабліва чыноўнікаў, што адчуваеш сябе, як у час перапынку на чыноўнай нарадзе. Пуцёўка ў тыя мясціны будзе каштаваць прыкладна 100 у.а.

## Блізкае замежжа

Адпачынак па пуцёўцы ў Сочы абыдзецца недзе 500 у.а. (з самалётам), танней у раёне Анапы, Новарасійска. Але збольшага на расійскім узбярэжжы Чорнага мора ўсё, у тым ліку харчаванне, стала дарагім, а якасць асабліва не павысілася. «Дзікі адпачынак» абыдзецца вам на долараў 200 менш на чалавека, але адчувальна адаб'ецца на нервах. Калі вы пажадаеце адчуваць сябе там як на радзіме – можаце набыць за 400 долараў пуцёўку ў санаторый «Белая Русь» (Туапсэ).



Крым і ўвогуле поўдзень Украіны танней. Але праблемы з вадой там яшчэ большыя. І з санітарыяй увогуле. З дзікароў, што адпачывалі мінулым летам у Крыме, асабліва захапляліся тыя, хто быў у Гурзуфе, Кактэбелі. Там і народу паменей, і дзешавей, і прытулак з харчаваннем знайсці не праблема. А на захад ад Ялты людзей і праблемаў як заўсёды занадта. Асабліва ў жніўні.

Апошнія гады шмат беларускіх дзяцей едуць адпачываць у Адэскую вобласць – нашыя турыстычныя фірмы наперабой гандлююць пуцёўкамі ў былыя піянерскія лагеры і базы адпачынку ўздоўж мора, абяцаючы дзецям сапраўдны рай на працягу двух тыдняў за 150 долараў. Часта бацькі сустракаюць дзяцей пасля такога адпачынку даволі расчараванымі праблемамі з вадой, дрэннымі бытавымі ўмовамі, аднолькавым харчаваннем, аднолькавасцю забаваў. Так што і два тыдні запомняцца надоўга.

Майце на ўвазе: з гэтага года ўкраінскія памежнікі запатрабуюць на вашае дзіця пашпарт. Яшчэ будзе дзейнічаць уклейка ў стары савецкі пашпарт, але лепш зрабіць дзіцяці сапраўднае пасведчанне асобы.

## Замежжа далёкае і не вельмі

Блізкім замежжам мы раней лічылі і Прыбалтыку, але тыя часы можна забыць. Там ужо амаль еўрапейскія кошты, патрэбныя візы. Затое – еўрапейскі сэрвіс, а галоўнае, які добры адпачынак ад савецкага ладу жыцця, які ў нас ніяк не сканае. У Паланзе, на Куршскай касе, на Рыжскім узмор'і можна за 10 дзён выдатна адпачыць, калі маеш хаця б па 400 долараў на чалавека.

Славакія і Чэхія застаюцца ў гэтым сезоне прывабнымі для турысцкіх вандровак і дзіцячага адпачынку. Беларускі «Спутнік», фірмы «Белфер», ВЛП ды іншыя прапануюць туды добра распрацаваныя праверaныя маршруты – варта звярнуцца. Класны адпачынак у Харватыі – мора, выдатны сэрвіс, знаёмае моўнае асяроддзе, магчымасць на дзень за 50 долараў наведаць Венецыю. Харватыя стала моднай, а кошт пуцёўкі ў 500-600 долараў яшчэ больш працуе на гэты выбар. Прыкладна на тым жа ўзроўні кошты адпачынку ў Чарнагорыі, але там гатэлі горшыя і не будзе Венецыі. Не танны адпачынак у Грэцыі, адразу папярэджваюць спецыялісты. Толькі апартаменты абыдуцца вам у 400 долараў,



а плюс яшчэ ежа, вечаровыя забавы, экскурсіі.

Хто хоча з'эканоміць грошы і адначасова па-еўрапейску спакойна адпачыць – калі ласка, у Венгрыю, на возера Балатон, напрыклад. Ад 250 долараў і вышэй. Ніякай спякоты, прэсная вадзічка, наведванне дэгустацыйных залаў з добрым мадзьярскім вінoм – для сямейных пар лепшага не прыдумаць.

Традыцыйным для беларусаў застаецца адпачынак у Балгарыі, але часта кажуць, аднаго разу там пабываць дастаткова.

Больш заможныя беларусы паедуць, канешне, крыху заходней – у Іспанію, напрыклад, на папулярны курорт Солоў. Там у пачатку лета пуцёўка каштуе 500, а ў жніўні пацягне на 900 долараў – у так званым клубным гатэлі «Эспіваль парк». Якіх толькі там няма забаваў, адзіны недахоп – крыху далёка ад астатняй цывілізацыі. У Турцыі ці Егіпце можна адпачыць за 500–600 у.а. Цяпер Турцыя павышае цэны, бо там, пасля таго як не расстралялі курдскага лідэра Аджалана, хваля тэрарызму сышла і турыстаў стала болей. Паспакайнела і ў Егіпце, але там цяпер спякота.

З даволі танных засталася яшчэ Румынія, куды цяпер з Мінска наладжаныя чартарныя рэйсы. Для сямейнага адпачынку рэкамендуюць курорт Мамая, для маладзёжнага — Алімп-Нептун. Румынія цяпер таксама патрабуе візы.

## Дарэчы, пра візы

Асаблівыя новаўвядзенні тычацца Чэхіі і Балгарыі. Балгарыя яшчэ з 1 студзеня, а Чэхія з перадапошняга травеньскага дня пускаюць да сябе грамадзянаў Беларусі толькі з візамі. Вядома, для турыстаў гэта дадатковыя цяжкасці. Скажам, у той жа Харватыі можна набыць візу прама ў аэрапорце і ўсяго за 10 долараў. А чэхі з балгарамі пайшлі еўрапейскім шляхам. З дапамогай консульскіх службаў у Беларусі. Чэшскае пасольства прымае дакументы на візу на працягу працоўнага тыдня і абяцае ўсё аформіць за 3–4 дні. Разавая віза на 90 дзён каштуе прыкладна 10 долараў. Часовы паверaны ў Беларусі Алеш Фойцік сцвярджае, што пакуль чэргаў за візамі няма, консульскі аддзел узмоцнены, усе, хто не мае перашкодаў, візу атрымаюць.

Тое ж самае пра сваю службу кажа і балгарскі дыпламат Васіл Петкаў. Ён днямі збіраў журналістаў, каб паведаміць радасную навіну, што балгарскі ўрад вырашыў да 30 верасня адмяніць узыманне з беларускіх арганізаваных турыстаў візавай таксы, якая цягнула на 30 долараў. Такім чынам віза для нас будзе каштаваць прыкладна 20 долараў, калі мы набудзем пуцёўку ці ваўчар праз турфірму, якая мае адпаведную ліцэнзію. Дзецям, якія паедуць адпачываць па чарнобыльскай лініі, абяцаюць візы бясплатныя. Не абышлося без маленькага расчаравання. Звычайна адпачываючыя ў Балгарыі на дзянёк ездзілі ў Стамбул, цяпер гэта адпадае. Хто з Балгарыі паедзе ў Турцыю, у таго балгарская віза аўтаматычна анулюецца, і яго чакаюць вялікія праблемы. Дарэчы, гэта толькі нас, беларусаў, чакаюць такія сюрпрызы. Прыбалты, палякі з чэхамі ездзяць па Еўропе куды заўгодна, нават расіянаў з украінцамі ў тую ж Балгарыю пускаюць без аніякіх візаў. Куды беларусу беднаму падацца? ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК



Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
(г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1779 Нумар падпісаны ў друк 05/06/2000 (15:00) Наклад — 9.050